*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 43 (151) ◈ 27 кастрычніка 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*19 КАСТРЫЧНІКА 1988 ГОДА БЫЎ СТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ.*

✦

19 КАСТРЫЧНІКА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ ВЕЧАРЫНА «КНІЖНІК ЯРЫЛА», прысвечаная 110-м угодкам з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага, якую арганізавала БСДГ. На жаль, ушанаванне памяці забітага бальшавікамі дзеяча беларускай культуры адбылося не на дзяржаўным узроўні, ды і то толькі дзякуючы руплюўцам беларускага Адраджэння.

✦

*СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ З ВІЗІТАМ БАЛГАРЫЮ. Падпісаны шэраг дакументаў. Кіраўніцтва Балгарыі дало абяцанне, што будзе садзейнічаць уступленню Беларусі ў Савет Еўропы, а таксама наданню нашай краіне статуса назіральніка ў рамках эканамічнага супрацоўніцтва дзяржаў чарнаморскага рэгіёна.*

✦

«НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АБ'ЯДНАННІ БЕЛАРУСІ» — пад такой назвай пачаты цыкл выстаў Нацыянальным музеем гісторыі і культуры рэспублікі сумесна з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Беларусі.

✦

*НА ПАСЯДЖЭННІ КАМІСІІ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І ПЫТАННЯХ СНД ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ абмеркаваны ход падрыхтоўкі новага пашпарта грамадзяніна рэспублікі. Плануецца, што пашпарты новага ўзору будуць выдавацца ўжо ў першай палове наступнага года. Тэкставае афармленне будзе рабіцца на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. І калі ўжо мы зможам абыходзіцца без рускай мовы!*

✦

НАВАПОЛАЦКАМУ ПОЛІТЭХНІЧНАМУ ІНСТЫТУТУ НАДАДЗЕНЫ СТАТУС УНІВЕРСІТЭТА. У хуткім часе яшчэ некалькі ВНУ стануць універсітэтамі. Што ж, трэба даганяць Амерыку.

✦

*РАШЭННЕМ УРАДА ЎВЕДЗЕНА ПАСАДА ПЕРШАГА НАМЕСНІКА МІНІСТРА ІНФАРМАЦЫІ — старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Хто ж зойме гэтую пасаду?*

✦

*ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ НА ПЕРШЫ КВАРТАЛ 1994 ГОДА ЗАСТАЛОСЯ КРЫХУ БОЛЬШ ЗА ДВА ТЫДНІ. Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», раім паспяшацца гэта зрабіць, бо на сённяшні дзень газета прадаецца ў розніцу крыху больш за 500 паасобнікаў, а ў наступным годзе можа быць і яшчэ менш.*

---

***Польскі граф хоча быць прэзідэнтам. Беларускім***

**Стар. 2**

***Кайданы, нават адпаліраваныя, не ўпрыгожваюць***

**Стар. 3**

---

*«Круглы стол» ТБМ*

# «МОВА НАЦЫІ — МОВА ДЗЯРЖАВЫ»

***Так называўся «круглы стол», які арганізавала і правяло Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Ён быў прысвечаны абмеркаванню хода выканання Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь. На ім прысутнічалі Ніл Гілевіч, Яўген Цумараў, Алег Трусаў, Анатоль Бутэвіч, Людміла Сухнат, Зміцер Санько, Мікола Савіцкі, Юры Хадыка, Васіль Зуёнак, Леанід Лыч, Вінцук Вячорка і іншыя.***

Адкрыў пасяджэнне «круглага стала» старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч. Напомніўшы прысутным, што прайшло тры гады, якія былі адведзены на выкананне шэрагу артыкулаў Закона аб мовах, ён адзначыў, што, на жаль, Закон не працуе ў той меры, як гэтага патрабуе час. Да ўсяго ў Беларусі няма дзяржаўнай моўнай камісіі, якая б займалася моўнымі пытаннямі і правярала, як выконваецца Закон аб мовах. Пакуль што ўсё гэта робіцца на грамадскім узроўні. Але радуе тое, што нашы намаганні па выкананні Закона аб мовах людзі разумеюць. З падтрымкай адзінай дзяржаўнай мовы яны дасылаюць лісты ў Вярхоўны Савет, у рэдакцыю газеты «Наша слова» і іншыя выданні. Зусім нядаўна Таварыства выпусціла зборнік, у якім змешчаны лісты ў абарону беларускай мовы. Рыхтуецца да выдання другі зборнік. Тысячы людзей падтрымоўваюць нашу палітыку. Праўда, ёсць і такія людзі, а месцамі і цэлыя працоўныя калектывы, якія выступаюць за наданне дзяржаўнасці і рускай мове, сустракаюцца і выпадкі прамога сабатажу выканання закона аб мовах. Многія прывыклі глядзець на начальства, і таму, пакуль кіраўнікі дзяржавы і ўсе народныя дэпутаты не загавораць па-беларуску, зрухаў у плане беларускасці будзе мала. Усе размовы аб выкананні Закона аб мовах павінны весціся на дзяржаўным узроўні, і выкананне Закона павінна быць не чарговым мерапрыемствам, а адной з найважнейшых задач нашай дзяржавы.

Ад Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на «круглым стале» выступіў спадар Генадзь Стрыжэвіч, які паведаміў, што неўзабаве наша міліцыя павінна загаварыць па-беларуску. Ужо вырашаны арганізацыйныя пытанні, працуюць курсы, набыты слоўнікі і метадычныя дапаможнікі. Супрацоўнікі МУС у большасці за тое, каб беларуская мова выкарыстоўвалася ў паўсядзённым ужытку.

Прадстаўнік Міністэрства абароны спадар Вячаслаў Пулко расказаў, як наладжаны заняткі па беларускай мове ў вайсковых часцях. У хуткім часе павінен выйсці дапаможнік па мове для вайскоўцаў, які падрыхтавала Валянціна Раманцэвіч. Спадар Пулко выказаў думку, што калі б Закон аб мовах быў строгім, то поспехаў у адраджэнні беларушчыны было б намнога больш. І калі ў Менску ў вайскоўцаў добрыя сувязі з ТБМ, то ў некаторых раёнах пра існаванне Таварыства вайскоўцы зусім нічога не ведаюць.

У Круглым суполка ТБМ створана зусім нядаўна. У ёй 97 актыўных сяброў. Пра праблемы і поспехі ў працы круглянскай суполкі расказала Святлана Вадап'ян. Яна адзначыла, што мясцовыя Саветы сябрам ТБМ не перашкаджаюць працаваць, але і не дапамагаюць.

У Лідзе суполка ТБМ працуе ўжо чатыры гады. Яе старшыня Марыя Ганчар паведаміла, што ў горадзе з 17 школ — 15 беларускамоўныя, з 38 дзіцячых садкоў — 31 беларускамоўны. Суполкай шмат зроблена па наданні Лідзе беларускага аблічча, адно засмучае, што кнігарні адвярнуліся ад праблем адраджэння і заняліся камерцыяй.

«Чыя краіна, таго і дзяржаўная мова» — гэтымі словамі можна абагульніць выступленне Юрыя Хадыкі, які прадстаўляў БНФ «Адраджэньне». Яго меркаванне падтрымаў Алег Трусаў, які абурыўся тым, што Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч, з'яўляючыся сябрам ТБМ і добра валодаючы беларускай мовай, карыстаецца ёю толькі ў рэдкіх выпадках. «Саюздрук» не прапагандуе беларускіх выданняў і па сутнасці праводзіць антыдзяржаўную палітыку. Такой жа думкі і Яўген Цумараў. Прадстаўнік Савета Міністраў Валеры Фадзееў не стаў абараняць Вячаслава Кебіча, а выказаў меркаванне, што Закон аб мовах можна было б выконваць каманднa-адміністрацыйным метадам, бо многія ў нас пачынаюць нешта рабіць, калі імі камандуеш. Міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч яшчэ раз пацвердзіў пазіцыю Міністэрства наконт адной дзяржаўнай мовы — беларускай. Людміла Сухнат, прадстаўніца Міністэрства адукацыі, таксама заверыла ўсіх, што Міністэрства толькі за беларускую мову і робіць і будзе рабіць усё, каб выконваўся Закон аб мовах. Марыя Мацюкевіч з Салігорска паскардзілася, што часта беларускамоўныя класы курыруюць людзі, якія не ведаюць мовы.

Ад Міністэрства культуры выступіў спадар Святлоў, які пахваліўся, што ў нас пачалі ствараць фільмы на беларускай мове. Праўда, апошнім часам многія хочуць пераварыць культуру ў камерцыю, што не спрыяе культуры.

Доктар гістарычных навук Леанід Лыч выказаў трывогу, што нашы выданні дрэнна асвятляюць беларусізацыю, і калі і далей будзе так, то, дзякуючы рускамоўнаму друку, на магчымым рэферэндуме людзі могуць выказацца за двухмоўе. Таму трэба як мага хутчэй спыніць усе гаворкі пра двухмоўе.

Мікола Савіцкі, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ, сказаў, што сябры ТБМ Менска адчуваюць усю адказнасць за тое, каб Менск быў беларускамоўным. Але цяжка працаваць ва ўмовах, калі парушаецца асноўны закон канстытуцыі, у якім сказана, што беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай. Гэты закон парушае Вярхоўны Савет і сам В. Кебіч. Недастаткова эфектыўна выкарыстоўваюць свае магчымасці творчыя саюзы. На гэта ў сваім выступленні Васіль Зуёнак сказаў, што пісьменнікі робяць усё магчымае ў прапагандзе беларушчыны, і паскардзіўся, што не хапае сродкаў для больш шырокай дзейнасці.

Падвёў вынікі «круглага стала» Ніл Гілевіч. Для тых, хто хоча больш падрабязна даведацца, пра што ішла гаворка, раім сачыць за тэлепраграмай — на «круглым стале» прысутнічала тэлебачанне.

Наш карэспандэнт.

# «Дайнова» спрыяе нацыянальнаму адраджэнню



У жыццяпісе Адама Паліховіча няма, на першы погляд, нічога надзвычайнага: нарадзіўся ў 1957 годзе, скончыў школу, атрымаў вышэйшую адукацыю, працаваў праграмістам і кіраўніком праграмісцкіх падраздзяленняў на дзяржаўных прадпрыемствах. Пералом у ягоным жыцці адбыўся ў 1991 годзе, калі ён, тады яшчэ пачынаючы прадпрымальнік, стварыў і ўзначаліў уласную фірму.

Сёння яе назва — «Дайнова» — гучыць па радыё, з'яўляецца на старонках газет і на экранах тэлевізараў. Фірма вядомая не толькі продажам і вытворчасцю персанальных камп'ютэраў высокага класа, але і як фундатар шматлікіх праектаў, маючых на мэце спрыянне адраджэнню і пашырэнню беларускай культуры.

Сп. Паліховіч падчас гутаркі з карэспандэнтам «Нашага слова» сказаў: «Ці атрымлівае «Дайнова» выгаду, падтрымліваючы беларушчыну? Не. Мая беларускасць ніяк не звязана з прадпрымальніцкай дзейнасцю і не спрыяе ёй. Тое, што фірма робіць дзеля падтрымкі нацыянальнай культуры, выклікана, хутчэй, унутранымі стымуламі. Усё, што фірма з гэтага мае,— пэўны імідж ды маральнае задавальненне. Але ж гэта — наша пазіцыя, і мы не збіраемся ад яе адмаўляцца».

У. ПАНАДА.

НА ЗДЫМКУ: Адам Паліховіч. прэзідэнт фірмы «Дайнова».

*Падручнікі*

# А «Пагоні» няма

Калі ў верасні пачаўся навучальны год, то нам, дзевяцікласнікам, выдалі новыя падручнікі. Раскрываю «Беларускую мову». Першая ж старонка сустракае паэтычнымі радкамі, дзе гаворыцца пра «камунізма светлага прыход». На наступнай старонцы апяваецца «Вялікі Кастрычнік». Далей — кароткае апавяданне пра братоў Валодзю і Сашу Ульянавых...

Але гэта — дробязі. Самую «карысную» інфармацыю можна атрымаць у раздзеле «Агульныя звесткі аб мове», размешчаным у канцы падручніка. Так, аказваецца, што ў перыяд Кіеўскай Русі продкі рускіх, беларусаў і украінцаў складалі агульную народнасць і мелі адзіную мову. Праўда, мы гэта ўжо раней засвоілі з курса «Истории БССР». У згаданым раздзеле поўна іншых, мякка кажучы, недарэчнасцей, а дакладней — трафарэтнай хлусні. Напрыклад, сцвярджаецца, што «ў канцы XVIII ст. адбылося ўз'яднанне Беларусі з Расійскай дзяржавай». Нішто сабе «ўз'яднанне»! Але ў выніку апошняга «беларускі народ далучыўся да культуры і літаратуры рускага народа» і «стала магчымым узнікненне... новай беларускай літаратурнай мовы». Таксама напісана, што толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі «беларуская нацыянальная мова атрымала вялікія магчымасці для свабоднага развіцця».

Нягледзячы на абяцанні, колькасць гадзін беларускай мовы і літаратуры сёлета не павялічылася. Як было дзве гадзіны на тыдзень, так і засталося. Столькі ж, дарэчы, адведзена для рускай мовы і «сусветнай літаратуры», столькі ж — для англійскай мовы.

Пяройдзем да беларускай літаратуры. Тут дзевяцікласнікі маюць дзве кніжкі — падручнік і хрэстаматыю. Перагорнем старонкі хрэстаматыі. У яе першым, самым маленькім раздзеле «Старажытная літаратура» можна прачытаць кароткія ўрыўкі з «Аповесці мінулых гадоў», «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Янкі Купалы, прадмоў Францішка Скарыны да сваіх кніг, вытрымкі з Баркулабаўскага летапісу, з вядомай прамовы Мялешкі. Нельга сказаць, што гэта найлепшая падборка. Чаму б, напрыклад, не ўключыць сюды ўрыўкі са Статута Вялікага княства Літоўскага?

У другім раздзеле — паэма «Тарас на Парнасе», вершы Паўлюка Багрыма, урыўкі з «Мужыцкай праўды» Каліноўскага, творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і іншых.

Але найбольшае месца ў кнізе займае раздзел «Літаратура пачатку XX стагоддзя», у якім змешчаны творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча дакастрычніцкага перыяду. Першы верш тут — «Мужык» Я. Купалы. Цікава, чаму, знаёмячыся з творчасцю Купалы, мы ледзьве не штогод праходзім гэты твор? Ад таго, што ён быў першым надрукаваны ў паэта? Акрамя гэтага, змешчаны іншыя вершы, дзе распавядаецца пра гаротную долю беларускага народа: «Там», «А хто там ідзе?», «Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?», «Гэй, наперад!»... Але складальнікі чамусьці забыліся пра верш «Беларушчына» і падобныя да яго, якіх у паэта нямала. З драматычных твораў ёсць п'еса «Раскіданае гняздо». Але няма «Тутэйшых». Пра апошнюю нават няма ані слоўца ў падручніку. Падручнік увогуле шмат чаго не дагаворвае. Напрыклад, расказваецца пра Цішку Гартнага, Максіма Гарэцкага, іх творы, але замоўчваецца, як гэтыя пісьменнікі загінулі.

Няма ў хрэстаматыі ні верша «Пагоня», ні паэмы «Страцім-лебедзь» Максіма Багдановіча. А шкада, вельмі шкада!

Сяргей ПЕТРЫКЕВІЧ, вучань IX класа СШ № 188.

г. Менск.

## Весткі з Віленшчыны

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю набыло кніжны кіёск, які быў перавезены з Менска ў Вільню. Ён будзе працаваць на вул. Жыгіманту, ля рэдакцыі віленскай беларускай газеты «Наша Ніва».

* * *

Загадчыца кафедры беларусістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта Л. Плыгаўка разам са сваімі студэнтамі арганізавала турыстычную фірму «Вільненсія». Фірма запрашае ў старажытную Вільню.

Аднадзённае знаходжанне ў горадзе прадугледжвае экскурсію па гістарычных мясцінах Вільні і абед. Тых, хто збіраецца тут гасцяваць больш, фірма забяспечыць жыллём, двухразовым харчаваннем і экскурсійным абслугоўваннем.

Аплата — па дамоўленасці. Звяртацца на адрас: Вільня, вул. Студэнту, аўдыторыя 527; тэл. (8-0122) 35-58-01, 45-82-92.

* * *

На беларускае аддзяленне Віленскага педагагічнага універсітэта (якое было пад пагрозай закрыцця з-за недахопу сродкаў) сёлета прынята 12 чалавек. Сярод абітурыентаў конкурсу не было. Відаць, гэта вынік адсутнасці інфармацыі пра беларускае аддзяленне.

* * *

Шмат хто з актывістаў беларускага адраджэнскага руху на Віленшчыне лічыць мэтазгодным у бліжэйшы час правесці з'езд беларусаў, якія жывуць у Літве. З'езд павінен аб'яднаць усе зарэгістраваныя і незарэгістраваныя беларускія арганізацыі і суполкі, каб стварыць Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду Літвы.

Ю. ГІЛЬ.

# Польскі граф хоча быць прэзідэнтам. Беларускім

Старшыня Беларускай лігі правоў чалавека Я. Новікаў, грамадзянін Польшчы і Канады граф А. Прушынскі, кіраўнік арганізацыі «Сознание Кришны», парафіяне менскага касцёла св. Барбары ды іншыя 30 верасня сабраліся ў канферэнц-зале менскага гатэля «Октябрьская». Згаданыя асобы сталі ўдзельнікамі прэс-канферэнцыі, наладжанай з ініцыятывы пана Прушынскага.

Напачатку запрошаныя журналісты атрымалі тэкст адкрытага ліста, адрасаванага «с-ру (сэру?) Шушкевічу і ўсім дэпутатам». Ліст абгрунтоўваў неабходнасць змены дзеючай Канстытуцыі з адзінай мэтай: атрыманне Прушынскім магчымасці балатавацца ў прэзідэнты краіны. На жаль, аўтары дакумента, упрыгожанага фразай «Проект новой Конституции есть не является демократическим», не згадалі, што Беларусь ёсць парламенцкая, а не прэзідэнцкая рэспубліка. Унізе стаялі подпісы самога графа, яго даверанай асобы М. Вашкевіча ды старшыні Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі А. Астапенкі.

У зале прагучала малітва, прачытаная святаром Рускай праваслаўнай царквы за мяжой а. Антоніем, якога аўтар гэтых радкоў напачатку ўзяў за ветэрана руху хіпі — у зман увялі яго джынсы, швэдар, даволі малады ўзрост ды густая расліннасць на галаве і твары.

Прэс-канферэнцыю адкрыў сам граф. Прамаўляючы на руска-польскай трасянцы, ён, забыўшыся, верагодна, пра абвешчаную папярэдне тэму абароны правоў чалавека, прапанаваў разнастайныя спосабы пераадолення энергетычнага крызісу. Прысутныя даведаліся, што Беларусь мусіць узяць за прыклад Бразілію, дзе бензін ашчаджаюць, дадаючы ў яго спірт. Акрамя таго, граф параіў не завешваць узімку каларыферы анучамі, бо ад гэтага яны горш грэюць.

Разважанні будучага прэзідэнта працягнуў дэпутат Вярхоўнага Савета Я. Новікаў. Прапанаваная ім праграма забеспячэння краіны палівам была значна больш радыкальнай: прыватызацыя структураў паліўна-энергетычнага комплексу. Ад гэтай праблемы ён, памятаючы тэму сустрэчы з прэсай, лёгка перайшоў да пытання парушэння правоў чалавека ў краіне, пачаўшы ад права на ўласнасць і праблем прыватызацыі і скончыўшы рэабілітацыяй ахвяраў псіхіятрычных рэпрэсій.

Наступнымі прамоўцамі сталі прадстаўнікі крышнаітаў і рыма-каталікоў. Абодва наракалі на ўлады за перашкоды дзейнасці іх рэлігійных суполак. Каталікі перапынялі ход прэс-канферэнцыі галоснымі маленнямі, а крышнаіты хадзілі па зале, частуючы ўсіх рытуальнай ежай. Іх змяніла жанчына з дакладам аб незаконных звальненнях.

Дакладчыкі змянялі адзін аднаго, прэс-канферэнцыя больш нагадвала справаздачу. А што граф?

«У нас у Канадзе»,—часта гучала з вуснаў дзеяча польскай эміграцыі. Але ж «кожны чалавек мае права да брання ўдзелу ў кіраванні СВАІМ краем...» — ці давозілася госцю Беларусі чытаць цытаваны тут 21-ы артыкул так шанаванай ім Універсальнай дэкларацыі правоў чалавека? Дарэчы, прэс-канферэнцыя была пабудавана так, што нельга было задаць пытанне, што думае пан Прушынскі наконт уціску правоў беларускай мовы на яе радзіме. Ды ўрэшце, здаецца, нікога з гэтай дзіўнай прэс-канферэнцыі такая праблема і не цікавіла. Гаварылі пра ўладу.

У. ПАНАДА.

*Мова і мы*

# Ісціна вуснамі дзяўчынкі

Працую я ў школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. У пачатку верасня мы з шасцікласнікамі пісалі сачыненне «Для чаго патрэбна выпісваць газеты». Сачыненне Алены Бахар, магчыма, зацікавіць і чытачоў «НС».

### ДЛЯ ЧАГО ТРЭБА ВЫПІСВАЦЬ ГАЗЕТЫ

Газеты, асабліва беларускамоўныя, трэба выпісваць, каб ведаць пра ўсё, што дзеецца на свеце. Вы спытаеце: «Чаму асабліва беларускамоўныя?» Ды таму, што рэспубліка наша — Беларусь, а чым больш мы чытаем, гаворым, пішам па-беларуску, тым больш высокай становіцца культура чалавека, адраджаецца, выходзіць з небыцця наша мова. Уявіце сабе немца без нямецкай мовы, які нават не разумее яе. Смешна? А беларуса без беларускай мовы мы можам уявіць. Вы, можа, здзівіцеся і скажаце:

— Як гэта беларус, ды не ведае і нават не разумее сваёй мовы?

А вось паслухайце такую гісторыю.

Гулялі мы аднойчы ў светлафор. Я кажу:

— Чырвоны колер.

Усе перайшлі. Толькі адна Іра, якая прыехала з горада, стаіць. Пастаяла крыху і пытаецца:

— А что такое «чірвоны»? А что такое «колер»? Я не понимаю.

Вось так. А гэта самая Іра ўсё жыццё жыве ў Беларусі. Тут выраслі яе бацькі і дзяды. Але ці толькі яна адна вінаватая ў тым, што не ведае роднай мовы? Гавораць, хоць і на дрэннай, але на расійскай мове ўсе ў яе хаце. Ці не час задумацца?

Вернемся цяпер да нашай тэмы. Людзі, думайце, перш чым выпісаць газету. Калі ўсе мы будзем выпісваць толькі расійскамоўныя газеты, то беларускія перастануць існаваць. Перастанем існаваць і мы, як нацыя. Думайце, людзі!

Вось такое сачыненне. У ім трывога дзіцячага сэрца за сваё будучае, за родную мову. Можа, яна знойдзе спагаду ў сэрцах іншых людзей, асабліва дарослых.

БАХАР Валянціна Мікалаеўна, настаўніца Старадубаўскай базавай школы Гродзенскага раёна.

# Вацлаву ЛАСТОЎСКАМУ — 110!

## ПАКЛІКАНЫ ЧАСАМ



Выдатнаму дзеячу беларускага нацыянальна-дэмакратычнага і дзяржаўнага адраджэння Вацлаву Ластоўскаму споўнілася 110 гадоў. Быў палітыкам, вучоным, пісьменнікам, публіцыстам, выдаўцом. Прайшоў усе этапы вызваленчага руху — ад першапачатковага «нашаніўскага», калі нацыянальная ідэя яшчэ заставалася ў межах «мастацка-філасофскіх прароцтваў і культуралагічнай праблематыкі» (выраз У. Конана) праз кароткачасовы вопыт дзяржаўнага будаўніцтва ў рамках палітычнай арганізацыі Беларускай Народнай Рэспублікі аж да фізічнага падаўлення духоўнай эліты народа бальшавікамі-«інтэрнацыяналістамі» ў трыццатыя гады.

У яго не было іншага выйсця, як памерці, бо ў бээсэсэраўскай дзяржаве ён быў «контррэвалюцыянерам», «ідэолагам буржуазнага нацыяналізму», «прапагандыстам залатога веку на Беларусі», «ворагам народа» і «ворагам марксізму». Следчым нічога не заставалася, як перапісаць у судовую справу Ластоўскага гэтыя палітычныя ярлыкі, прышыўшы «белымі ніткамі» яшчэ і абвінавачанні ў прыналежнасці да нейкіх міфічных контррэвалюцыйных арганізацый («Беларускае братэрства» і «Саюз вызвалення Беларусі») і шпіянажы на карысць Польшчы. Быццам бы ім не хапала рэальнай прыналежнасці Вацлава Ластоўскага да рэальных беларускіх арганізацый, партый і ўрадаў, ненавісных бальшавікам, каб яго расстраляць.

Сёння імя Вацлава Ластоўскага — у кантэксце нацыянальнай ідэі — святое і сімвалічнае, як і імёны яго паплечнікаў па агульнай барацьбе за адраджэнне духоўнай спадчыны і дзяржаўнасці беларускага народа.

Вацлаў Усцінавіч Ластоўскі паходзіў з сям'і збяднелага шляхціца — арандатара зямлі. Яго радзіма — засценак Калеснікі Дзісенскага павета (сучасная Браслаўшчына). Дзед быў кавалём, а прадзед плотнікам. «У сне я ніколі не займаюся ні земляробствам, ні кавальскім рамяством,— сведчыў Ластоўскі,— але бортніцтвам даволі часта і з такімі дэталямі,аб існаванні якіх я даведваюся пазней толькі з літаратуры. Дзесьці ў мазгавых ячэйках у мяне глыбока засела бортніцкая прафесія» (пісьмо да А. Багдановіча ад 15 ліпеня 1927). Скончыў народную школу ў вёсцы Пагост. Глыбокія і рознабаковыя веды атрымаў шляхам самаадукацыі. У 1909 г. стаў сакратаром «Нашай Нівы», асудзіўшы сябе, такім чынам, на цяжкі і няўдзячны лёс.

Ісці трэба па цаліку. У народа былі страчаны спрадвечныя культурныя і гістарычныя традыцыі, нацыянальная самасвядомасць і годнасць. Душа яго спала. Ён не ведаў, адкуль прыйшоў на гэту зямлю. Першай справай нашаніўскіх адраджэнцаў стала асветніцтва. Народ заклікалі «выйсці шукаці вясну», змагацца за лепшую долю. Творы Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Цёткі перапоўнены гэтымі заклікамі. Адначасна ствараліся першыя падручнікі на роднай мове для сялянскіх дзяцей. Прыгадаем хаця б чытанкі Коласа і Цёткі. З асветнымі мэтамі Ластоўскі выдае ў 1910 г. «Кароткую гісторыю Беларусі» (як адзначалася ў друку — упершыню напісаную беларусам і для беларусаў), брашуру «Што трэба ведаць кожнаму беларусу» (1910) з красамоўнымі падзагалоўкамі: «Беларускі народ», «Беларуская мова», «Беларуская зямля», «Адзнакі Беларусі» і інш., фальклорны зборнік «Прыпеўкі» (Песні-песень, 1918), а для дзетак-беларусаў піша і выдае навучальныя дапаможнікі: «Першая чытанка» (1916), «Незабудка» (1918), «Сейбіт» (1918), «Хрэстаматыя беларускай літаратуры» і інш. Ужо па гэтых працах можна меркаваць пра месіянерскі характар дзейнасці Ластоўскага і яго імкненні ахвярна служыць інтарэсам народа.

«Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлаў Ластоўскі ахвяроўвае «сыном маладой Беларусі, каб хаця з гэтай кароткай і няроўнай працы яны маглі пазнаць гісторыю бацькоўшчыны на сваёй роднай мове... Адно толькі пазволю я сабе: некаторыя здарэньня асудзіць па-свойму з становішча карысьцей і шкод беларускага народу».

Адначасна Ластоўскі выступае як паэт, апавядальнік і публіцыст пад сваім сапраўдным прозвішчам або пад псеўданімам Власт, Верашчака Ю., Уласт, В-Лскі і інш. Яго мастацкія рэчы напісаны на аснове фальклорных твораў, жыццёвых і гістарычных здарэнняў. М. Багдановіч у аглядным артыкуле пад назваю «Тры гады» высока ацаніў талент Ластоўскага, адзначыўшы, што яго «Сож і Дняпро» і «Дзень рожавай кветкі» нагадваюць лепшыя апавяданні Андэрсана. Ластоўскі таксама напісаў цікавыя ўспаміны пра паэта. На жаль, па вядомых прычынах успаміны гэтыя не ўвайшлі ў зборнік мемуарных і біяграфічных матэрыялаў, прысвечаных вялікаму паэту (складзены Н. Ватацы).

Надышлі гады ваеннага ліхалецця (1914—1921). На прасторах Расійскай імперыі бушавала вайна. Па тэрыторыі Беларусі туды-сюды перакочваліся орды чужынцаў: войскі кайзераўскай Германіі, Пілсудскага, Чырвоная Армія бальшавікоў. Беларуская зямля страціла былых гаспадароў. У дзеячаў беларускага адраджэння з'явілася надзея выкарыстаць сітуацыю і рэалізаваць нацыянальную ідэю ў дзяржаўна-палітычным аспекце. Тагачасны беларускі друк, што заняў месца «Нашай Нівы», як люстэрка, адбіваў зігзагі беларускай гісторыі і адраджэнскага руху. Гэта «Гоман» (люты 1916 — красавік 1917), «Крывічанін» (1918), «Вольная Беларусь» (май 1917 — лістапад 1918), «Беларускі шлях» (сакавік — жнівень 1918), «Беларускае жыццё» (жнівень 1918 — ліпень 1920), што выдаваліся і рэдагаваліся Ластоўскім, Лёсікам, Гаруном, Ф. Аляхновічам і іншымі дзеячамі. Узніклі розныя партыі (сацыял-дэмакратаў, эсэраў-народнікаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сялянская), якія таксама паспрыялі кансалідацыі нацыянальных сіл.

Першая спроба самавызначыцца не ўдалася. Першы Усебеларускі з'езд, які сабраўся ў Менску ў канцы снежня 1917 г., разагналі бальшавікі. Аднак Рада з'езда працавала, і 25 сакавіка 1918 г. ва ўмовах нямецкай акупацыі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка і прынята трэцяя Устаўная грамата.

У гэтых гістарычных падзеях прымаў удзел і В. Ластоўскі. Адзначу, што ўжо з 1915 г. ён выступаў за нацыянальна-дзяржаўнае развіццё беларусаў, даводзіў іх правы на сваю дзяржаўнасць. У снежні 1919 г. ва ўмовах польскай акупацыі ўзначаліў новы ўрад БНР. Быў пасаджаны палякамі ў астрог за тое, што адмовіўся з імі супрацоўнічаць. У 1920 г. эмігрываваў у Коўна, куды ўжо раней выехаў урад БНР. У Літве ўзначаліў беларускі рух, займаўся выдавецкай і навуковай дзейнасцю: рэдагаваў часопіс «Крывіч» (1923—1927), выдаў «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924) і «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» (1926) — апошняя атрымала высокую ацэнку спецыялістаў у Еўропе. Кніга гэта ўяўляе сабой агляд беларускай пісьменнасці X — XVIII стагоддзяў. Помнікі разглядаюцца ў храналагічным парадку па стагоддзях. Мэта кнігі: «Паказаць, што пісьменнасць крыўскага народа па сваёй даўнасці сягае X стагоддзя, а па багацці помнікаў не мае першае месца на ўсходняй славяншчыне». У прадмове аўтар абураецца нахабствам «часовых нашых пераможцаў» пазбавіць паняволены беларускі народ «сваёй слаўнай мінуўшчыны», прыўласціць сабе яго духоўныя набыткі. Ён палемізуе з ідэолагамі царызму, якія хлусліва сцвярджалі ў школьных падручніках наступнае: «Беларусы — самая малодшая галіна рускага народа», «Беларусы загнаныя і панылыя, малаздольныя да культурнага развіцця, але добрыя землякопы», «Беларусы пісьменнасці сваёй не вытварылі» і інш. У адказ Ластоўскі піша: «Каб не наша старая пісьменнасць, не было бы ў Расіі Пушкіна. На нашых помніках развівалася і шліфавалася цяперашняя расійская мова, так не падобная да мовы колішняй Масковіі. На нашай мове ўзрастала адраджэнне польшчыны ў XV—XVI стст. і сыцілася ў часе заняпаду яе дзяржаўнасці ў XIX ст. Дзеля гэтага патрэбен грунтоўны крытычны перагляд усёй гістарычнай пісьменнасці, створанай пераможцамі аб нас». Што аўтар і паспрабаваў зрабіць у аглядных артыкулах да кожнага раздзела. Знаёмства з узорамі старабеларускай пісьменнасці адбываецца пры дапамозе каментарыяў і выпісак з тэкстаў, мэта якіх — не толькі ілюстраваць змест і мову тэкстаў, але і «каб звязаць навачэсную пісьменнасць са старымі традыцыямі і здабыткамі ў дзедзіне духоўнасці». Спіс помнікаў займае 29 стар. Другім спісам ідзе пералік літаратуры на польскай і рускай мовах, што находзіць са старасховішчаў Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны і якой аўтар карыстаўся. Даецца таксама слоўнік помнікаў, каб аспрэчыць «вучоныя» трактаты аб тым, што мова актаў Вялікага княства Літоўскага і народная беларуская з'яўляюцца рознымі мовамі.

Крыўская кніга — неперасўздзены ўзор навуковай дасведчанасці аўтара, яго бліскучай эрудыцыі ў галіне грамадскіх навук і пераканаўчых аргументаў. На сённяшні дзень яна з'яўляецца найбольш поўным бібліяграфічным даведнікам па старабеларускай літаратуры. Неабходна ажыццявіць яе факсімільнае выданне.

«Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» паказаў, што Ластоўскі быў выдатным лексіколагам і добра разумеў агульную бяду нашай мовы — яна асіміляваная, засмечаная чужымі словамі, адарваная ад уплываў мовы народнай, зняважаная ў сваіх формах. У прадмове да слоўніка аўтар прысвяціў беларускаму адраджэнню сардэчныя радкі. Ён адзначыў, што беларусы — народ самабытны і найменні «Русь» і «Літва» не пярэчаць гэтай самабытнасці. Аднак каб больш не блыталі беларусаў з рускімі ці літвінамі, аўтар прапануе вярнуцца да старога наймення народа «крывічы». «Мы Крывічы, а не Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная; мы асобны славянскі народ...»

У 1926 г. Ластоўскі прыняў удзел у Міжнароднай акадэмічнай канферэнцыі па праблемах беларусазнаўства, якая была склікана ў Менску. Поступ беларусізацыі ў БССР засляпіў яму вочы, і ён перабіраецца ў Менск. «Звароту да родных ніў я нязмерна рад,— пісаў ён А. Багдановічу.— Скончылася ўрэшце цяжкая эміграншчына. Маю працу, якую я заўсёды смакаваў і да якой імкнуўся. Праца гэта дае мне задавальненне».

Да свайго арышту ў 1930 г. Ластоўскі працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея і нязменным сакратаром Інбелкульта. У 1928 г. быў выбраны акадэмікам. Яго ўвага была скіравана на пытанні мовы, літаратуры, гісторыі і этнаграфіі, што стала найбольшым захапленнем. У жніўні 1930 г. Ластоўскага арыштоўваюць. Захаваўся шэраг дакументаў, якія датычаць працэдуры арышту, і «Справа В. Ластоўскага», апублікаваная сёлета У. Міхнюком у «Маладосці», № 8. Як мы даведваемся з гэтай «справы», В. Ластоўскі прызнаў сваю «віну», аднак на следстве трымаўся з годнасцю, адводзіў удары ад іншых людзей. У 1931 г. расправы з «контррэвалюцыянерамі» не былі яшчэ такімі жорсткімі, і Ластоўскага пакаралі ссылкай у Саратаў. Дзякуючы таму, што нейкім цудам у архіве А. Багдановіча захаваліся яго лісты (дарэчы, у Інстытуце літаратуры яны бескарысна праляжалі з 1957 г. і апублікаваны не былі), нам сёе-тое стала вядома пра яго жыццё ў Саратаве, дзе ён працаваў у навуковай бібліятэцы універсітэта загадчыкам аддзела рэдкіх, каштоўных і рукапісных кніг. Ластоўскі — Багдановічу: «Дарагі дзядзька! Гэты ветлівы зварот упершыню быў адрасаваны мне ў сяле Няглюбка. Тады ён расчуліў мяне. Я адрасую яго Вам, дарагі Адам Ягоравіч, з тым пачуццём цеплыні, якім валодае ўспамін аб чымсьці прыемным. Бо свет — гэта я. Цяпер некалькі слоў пра сябе. Працую там жа. Здароўе маё моцна пахіснулася. Гэтай зімой перахварэў грыпам з ускладненнем: запаленне нырак. Печань пабольвае. У роце — ніводнага зуба. Зрэшты, гэта добра: мне перасталі балець зубы. На Радзіму мяне не цягне. Мая радзіма ва мне, там, дзе я знаходжуся. Тое, што людзі называюць радзімай, мясцінамі дзяцінства,— іх таксама няма. Змяніліся і людзі і прырода. Усё навокал чужое. Людзі? Усе людзі злыя, у тым ліку і я. Няма людзей добрых, не трэба ашукваць сябе. Вартыя жалю пацукі, вечна галодныя, вечна варагуючыя і больш лютыя за дзікага звера. Адчуваю глыбокую агіду да такога жыцця, так! Прабачце, што пішу тое, што і ў мінулы раз. Не магу інакш. Хацелася б пагаварыць з Вамі асабіста. Уяўляю змрочны даждлівы дзень. За акном лес шуміць парывамі. Утульны пакой, надыходзіць змрок, у каміне тлее агеньчык. Мы з Вамі сядзім і гутарым пра тое, чаго няма, што адышло разам з часам: аб дзяцінстве, аб захапленнях розуму і душы, аб нашых пошуках... З Вамі я мог бы захапіцца. Шчыра Ваш В. Ластоўскі (3 красавіка 1936)».

Вось, бадай, і ўсё. 20 жніўня 1937 г. В. Ластоўскага зноў арыштавалі. Дапытвалі ўсяго адзін раз — 7 кастрычніка. Свае ранейшыя паказанні ён вымушаны быў пацвердзіць. 23 студзеня 1938 г. як «агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі» быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання і ў той самы дзень расстраляны. Яго навуковыя працы, канфіскаваныя пры арышце, былі знішчаны сапраўднымі фашыстамі — яго катамі. Так загінуў адзін з найвыдатнейшых сыноў беларускага народа, 110-годдзе з дня нараджэння якога мы ўшаноўваем.

Ірына КРЭНЬ.

# Вучымся!

УДАКЛАДНІМ

# Кропка

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча Бурака.***

●

*Вецер плыў з надхмарнай вышыні Шырокасць і напорнасць яго весяліла сэрцы Весялілася ж і зямля ў пустэчах палявога ржышча Каля кустоў птушкі ўзнімаліся і гойдаліся ў неабдымным імчанні паветра*

Якія знакі прыпынку трэба паставіць у канцы кожнага гэтага сказа з рамана Кузьмы Чорнага «Зямля»? Не трэба, відаць, асаблівых разважанняў, каб вызначыць, што гэта апавядальныя сказы, што яны граматычна, інтанацыйна і паводле сэнсу закончаныя. У такіх выпадках гэтае заканчэнне пазначаецца кропкай.

**Увага!** Калі ў канцы апавядальнага сказа ёсць пытальныя або клічныя словы ці незавершаныя выразы-загалоўкі, якія бяруцца ў двукоссе, то пасля закрываючага двукосся ставіцца кропка: *Паўстанцы ішлі ў бой з клічам «За нашу і вашу свабоду!».*

Калі непасрэдна за апавядальным сказам падаецца спасылка на аўтара, то кропка ставіцца пасля яе. Прыклады пададзены ніжэй.

Кропка ставіцца таксама ў канцы:

1) кароткіх апавядальных сказаў з мэтай надаць іх сэнсу большую выразнасць: *Снежак смех. Санак бег. Снежна. Санна. Свежа* (А. Вялюгін).

2) намінатыўных сказаў (быційных, указальных) і функцыянальных аналагаў сказа з «назоўным уяўлення» (г. зн. сказа, які дае толькі тэму, што раскрываецца ў наступным тэксце): *Мужчына. Жанчына. Каханне.*

3) пабуджальных простых сказаў, калі яны не маюць яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі: *Няхай жа для шчасця цвіце ваша доля* (А. Русак). Параўнайце: *Жыве Беларусь!*

4) простых сказаў, якія маюць клічную або пытальную форму, але ўжываюцца з апавядальнай інтанацыяй: *Адкуль у дзеда стольκі сілы* (Якуб Колас). *Чаму ж мне не весяліцца, калі ўсюды лад ідзе* (Янка Купала).

5) складаназалежных сказаў, у якіх даданая прэдыкатыўная частка аформлена як ускоснае пытанне: *Мікола пацікавіўся, колькі вёрст да бліжэйшага горада* (М. Гарэцкі).

6) апавядальнага сказа перад далучальнымі злучнікамі, якія пачынаюць структуру самастойнага сказа або функцыянальнага аналага сказа і прымацоўваюць іх да гэтага сказа ў тэксце: *Салдаты ішлі па дарозе. А то і проста па полі* (С. Баранавых).

7) апавядальнага сказа перад злучальнымі і падпарадкавальнымі злучнікамі, калі яны маюць далучальнае значэнне і ўжываюцца для прымацавання самастойнага сказа або функцыянальнага аналага сказа да гэтага сказа ў тэксце: *У бабулі былі залатыя рукі. І добрае сэрца* (Б. Мікуліч).

8) апавядальнага сказа перад злучальна-тлумачальным словам, напрыклад, якое далучае самастойны сказ або функцыянальны аналаг сказа, што прызначаны для развіцця і ўдакладнення зместу папярэдняга сказа ў тэксце: *Клічную форму ў беларускай мове ўтвараюць некаторыя назвы асоб і назвы прадметаў. Напрыклад: браце, куме, дружа, хлопча, голубе, цвеце, дубе* (М. Гурскі).

9) апавядальнага сказа пры працяглай паўзе пасля асобных слоў, якія лагічна выдзяляюцца, а іх змест раскрываецца ў наступным сказе звязнага тэксту: *Успомнілася адно здарэнне. Ідучы праз пушчу, я нечакана сутыкнуўся з мядзведзем і вельмі спалохаўся* (Х. Шынклер). *Мы зробім вось што. Сваімі сіламі адрамантуем жняярку і заўтра пачнём жаць жыта* (У. Краўчанка).

10) уступнага сказа, якім уводзіцца разгорнутае апісанне аб з'явах і падзеях; само апісанне пачынаецца з новага абзаца. Прыкладам:

*Пачынаецца казачка так.*

*Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр...* (Я. Брыль).

11) разгорнутага апісання перад заключным сказам, які падагульняе змест папярэдніх сказаў або функцыянальных аналагаў сказа і размяшчаецца ў адным абзацы з імі ці выдзяляецца ў асобны абзац: *Міхалка пачаў паўзці па траве ў бок млына. Пры кожным падазроным гуку прырастаў да зямлі, адчуваў халадок травы пад каленямі, пад правай шчакою. Ён навастрыў слых. Часамі рабілася так ціха, што шорханне травы пад каленямі прыкра разіла вуха, здавалася шумам.*

*Такім чынам Міхалка дабраўся да старога млына* (З. Бядуля).

12) Калі ў канцы апавядальнага сказа стаіць скарочанае слова, то пастаўленая пасля яго кропка адначасова афармляе і канец сказа, напр.: *Калі пачаўся мітынг, Андрэй тлумачыў Лясніцкаму, хто выступае, да якой ён належыць партыі, якое яго мінулае і г. д.* (М. Зарэцкі).

Кропка паўтараецца пасля закрываючага двукосся, калі перад ім яна пастаўлена дзеля абазначэння скарачэння слова, напр.: *У даведніку сказана, што «адценнямі чырвонага колеру з'яўляюцца барвовы, пунсовы, пурпуровы і інш.».*

**Хатняе заданне.** Пастаўце знакі прыпынку пасля сказаў (урывак з рамана Кузьмы Чорнага «Зямля»): *Сінь неба была чорнаю і густою Усё большы ўзнімаўся вецер Яшчэ трымалася цеплыня над зямлёй, але чуліся блізкія халады Поле было пустое, абветранае Пад ветрам шумела сухая трава, гойдаліся піжма і пробаваў зеляніцца, яшчэ цвёрды, чабор*

*Юрка з бацькам стаяў на каляіністай дарозе*

***Навінкі выдавецтваў***

# «КАРОТКІ РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ ВАЙСКОВЫ СЛОЎНІК»




Так ужо здарылася, што працэс адраджэння беларускай мовы супаў са складаным эканамічным становішчам у краіне. Таму і затрымліваецца выданне надзвычай неабходных падручнікаў і папулярнай гістарычнай літаратуры. Але добра, што ў такой сітуацыі ўсё ж запаўняецца адукацыйны вакуум за кошт выданняў, якія ажыццяўляюцца рознымі прыватнымі ці камерцыйнымі структурамі.

Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» (прэзідэнт В. Багдановіч) выдала «Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік» Станіслава Судніка. У анатацыі да кнігі сказана: «Слоўнік змяшчае больш за 1000 тэрмінаў па асноўных галінах вайсковай справы. У дадатку пададзены практычна ўсе ўжывальныя шыхтовыя і пазашыхтовыя вайсковыя каманды.

Слоўнік прызначаецца вайскоўцам Узброеных сіл, навучэнцам і выкладчыкам вайсковай справы ў навучальных установах Рэспублікі Беларусь».

Спадар Станіслаў Суднік даўно і самаахвярна апякуецца праблемамі беларускай вайсковай лексікі. Афіцэр рабіць гэта пачаў яшчэ падчас службы ва Узброеных сілах СССР. Сёння, калі працэс вывучэння беларускай мовы ў пэўнай ступені ідзе і ва Узброеных сілах Беларусі, выданне вайсковага слоўніка выклікае асаблівую зацікаўленасць.

Гартаючы старонкі працы С. Судніка, неспадзявана адкрываем новыя і новыя абсягі беларускай мовы. Справа ў тым, што, перакладаючы расейскія вайсковыя тэрміны, аўтар не абмяжоўваецца традыцыйнымі (у вялікай ступені — калькаванымі, ледзьве не даслоўнымі) іх перакладамі на беларускую мову. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», «Русско-белорусский словарь» тут не з'яўляюцца галоўнымі арыенцірамі ў стварэнні беларускага адпаведніка.

У «Прадмове» Станіслаў Суднік тлумачыць прынцыпы ўкладання свайго слоўніка:

1. Аснову слоўніка складае сучасная беларуская лексіка, прысвечаная вайсковай ці блізкай да яе тэматыцы: такія словы, як *выбух, стрэльба, набой, запал, перамога, варта, мяжа, абарона, ратаваць, ахоўваць, знішчаць, загадваць* і г.д.

2. Асобнай грамадой вылучаюцца гістарызмы — вайсковыя тэрміны, якія ў розныя часы існавалі на Беларусі *(шыхт, штандар, залогавой, жаўнер, рокаш* і інш.).

3. На беларускай лексіцы грунтуюцца і многія спецыфічныя вайсковыя тэрміны *(знішчальнік, збройня, вартаўнічы* і інш.) і словазлучэнні *(крокам руш, выказваць пашану, вайсковая годнасць* і г.д.).

Наватворы ствараліся ў строгай адпаведнасці з правіламі беларускага словаўтварэння, з дапамогай уласна беларускіх суфіксаў і прыставак.

4. Пэўнае месца ў слоўніку займаюць запазычаныя словы, якія прайшлі адаптацыю да беларускай мовы.

Станіслаў Суднік падае чытачу фактычна першую спробу (у сённяшнім часе, маецца на ўвазе) вяртання да сапраўды беларускай вайсковай тэрміналогіі. Аўтар слоўніка прыадчыняе новыя грані, новыя магчымасці вайсковай лексікі.

Слоўнік С. Судніка, безумоўна, патрабуе сур'ёзнага разгляду знаўцамі, спецыялістамі мовы. І хацелася б, каб гэты разгляд быў зроблены як найхутчэй.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

# ПЛАН

## навучальных тэлеперадач на 1993 / 94 навучальны год

*ЛІСТАПАД*

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 26. | 8,9 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Адкуль нашы карані |
| 27. | 9,10 | 3 | выяўленчае мастацтва | Перадача рознага настрою ў творах жывапісу |
| 28. | 11,12 | 9 | геаграфія Беларусі | Экалагічныя праблемы Беларусі |
| 29. | 15,16 | 8 | гісторыя Беларусі | Асвета і культура Беларусі ў канцы ХУШ – першай палове XIX ст. |
| 30. | 16,17 | 9 | беларуская літаратура | В. Дунін-Марцінкевіч і яго камедыя „Пінская шляхта” |
| 31. | 18,19 | 11 | беларуская літаратура | Размова з сучаснікамі /Пімен Панчанка і яго паэзія/ |
| 32. | 22,23 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Полацкае княства – першая дзяржава на беларускай зямлі |
| 33. | 23,24 | 3 | прыродазнаўства | Расліны і жывёлы поля |
| 34. | 25,26 | 9 | геаграфія Беларусі | Насельніцтва Беларусі |
| 35. | 29,30 | 5 | беларуская літаратура | Міхась Лынькоў. „Міколка-паравоз” |

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*Працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».*

*Г. Я. ГАЛЕНЧАНКА*

# БЕЛАРУСЫ: ФАРМІРАВАННЕ НАРОДНАСЦІ

Даследчыкі дагэтуль не высвятлілі, калі пачаўся выразны працэс фарміравання беларускага этнасу. Але, безумоўна, што яшчэ ў часы існавання буйных княстваў на Беларусі былі закладзены матэрыяльныя і духоўныя асновы народнасці, крышталізаваліся і назапашваліся пэўныя яе элементы.

Працэс фарміравання беларускай народнасці, як і ўсякага этнасу, развіваўся ва ўзаемадзеянні з геаграфічна-кліматычнымі, сацыяльнымі і непасрэдна этнічнымі ўмовамі.

Пад іх уздзеяннем пашыраліся, узмацняліся і эвалюцыяніравалі тэрытарыяльныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя сувязі. Паступова складалася тыповая для развітага феадалізму саслоўна-класавая арганізацыя. У якасці важных кампанентаў культуры сярэднявечнага этнасу перш за ўсё неабходна адзначыць мову, веравызнанне, этнічную самасвядомасць, пэўныя характэрныя нормы паводзін.

Узнікненне беларускай народнасці і яе развіццё былі перш-наперш звязаны з тэрытарыяльным адзінствам рассялення. Прыродныя ўмовы Беларусі аказаліся досыць спрыяльнымі для жыцця і дзейнасці карэннага насельніцтва. Умерана кантынентальны клімат з адносна халоднай зімой і доўгім летам, дастатковая колькасць ападкаў (асабліва ў паўночнай і цэнтральнай частках), перавага дзярнова-падзолістых глеб — усё гэта садзейнічала развіццю земляробства і іншых важных галін сельскай гаспадаркі са старажытных часоў.

Тады амаль усю тэрыторыю Беларусі займалі лясы, асваенне якіх пашырала абжытую тэрыторыю. Гэта акалічнасць разам з паляпшэннем агульнай культуры земляробства (распаўсюджанне трохполля, ужыванне арганічных угнаенняў) стварала неабходныя ўмовы для ўзрастання колькасці тутэйшага насельніцтва і прыцягвала сюды «новапрыходцаў». Таму паспяхова развіваліся ўсе галіны сельскай гаспадаркі, промыслы і рамёствы. Геаграфічнае асяроддзе ўплывала таксама на рассяленне насельніцтва, на характар і напрамкі яго вытворчай дзейнасці, шмат у чым вызначала спецыфічныя рысы жылля, адзення і харчавання беларусаў.

Пры вызначэнні знешніх межаў тэрыторыі, на якой фарміравалася беларуская народнасць, трэба ўлічваць і змены дзяржаўнай тэрыторыі ВКЛ. Гэта істотна ўплывала на этнічныя і міжэтнічныя адносіны, на паланізацыю прыгранічных зямель вакол гістарычнага рэгіёна рассялення ўсходнеславянскіх племянных супольнасцей: крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў.

У перыяд феадальнай раздробленасці больш прыкметную ролю сталі адыгрываць тэрытарыяльныя сувязі, што гістарычна складваліся ў палітычных межах Полацкай, Тураўскай і некаторых іншых зямель, якія ў асноўным супадалі з арэалам рассялення згаданых племянных супольнасцей. Паўднёвая мяжа рассялення дрыгавічоў ахоплівала правабярэжжа Прыпяці па сярэднім і часткова ніжнім цячэнні з уключэннем ніжняга цячэння прытокаў Стыры, Гарыні, Убарці, заходняя даходзіла да левабярэжных прытокаў Заходняга Буга.

Тэрыторыя, на якой складвалася беларуская народнасць, часткова ўключала землі, некалі абжытыя радзімічамі. Усходняя мяжа радзімічаў даходзіла да лініі Рослаўль — Хоцімск — Клетня — Дзясна — Старадуб — Трубчэўск. У перыяд максімальнага пашырэння ВКЛ у склад гэтай дзяржавы ўваходзілі Бранскае княства (з сярэдзіны XIV ст.), Смаленская зямля (з пачатку XV ст.). Таму насельніцтва названых зямель было ўцягнута ў этнічныя працэсы, што адбываліся на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства.

Этнографы мяркуюць, што ў склад беларускай народнасці ўвайшлі нашчадкі «смаленскай або смаленска-полацкай групы крывічоў, за выключэннем яе апошняй паўночна-ўсходняй часткі, якая прымыкала да Верхняй Волгі». Паўночныя межы рассялення палачан ахоплівалі правабярэжжа Заходняй Дзвіны (у сучасных граніцах Беларусі), а смаленскіх крывічоў — верхняе цячэнне Дняпра.

Этнічная мяжа паміж балцкім і славянскім насельніцтвам, якая ўсталявалася да XIII ст. прыкладна па лініі Мерач— Трабы (на поўдзень ад Ашмян) — воз. Свір (наваколле Браслава), у наступныя тры стагоддзі амаль не змянілася.

На фарміраванне этнічнай тэрыторыі беларускай народнасці ўплывалі і каланізацыйныя працэсы, якія ў пэўнай ступені развіваліся стыхійна, а з часам усё больш актыўна выкарыстоўваліся дзяржаўнай адміністрацыяй, буйнымі феадаламі.

Працэс засялення з удзелам беларускага, украінскага, польскага, літоўскага насельніцтва адбываўся ў розных рэгіёнах Занёмання і Падляшша. Аб гэтым гавораць тапонімы «Савічы Рускія», «Кулешы Літвы», «Русь», «Ляхі» і інш. Дагавор з Ордэнам 1379 г. прадугледжваў правы жыхароў Гродзеншчыны паляваць, лавіць рыбу, займацца іншымі промысламі ў Занёманскай пушчы.

У XV — першай палове XVI ст. пасля падзелаў Гародзенскай, Мерычскай, Пераломскай і іншых пушчаў паміж гаспадарскімі дварамі, а таксама ўладаннямі беларускіх і літоўскіх феадалаў працэс засялення Сейненскай, Аўгустоўскай, Сувальскай зямель паскорыўся.

Каланізацыйныя працэсы рознай інтэнсіўнасці ішлі таксама ў іншых прыгранічных рэгіёнах, у тым ліку ў раёне Прыпяці і ў некаторых землях паўночна-заходняй Беларусі.

У сярэдзіне XV ст. этнічныя беларускія землі ў тры разы перавышалі літоўскія. Па падліках сучасных гісторыкаў, суадносіны агульнай тэрыторыі Аўкштайціі, Жэмайціі і ўсходнеславянскіх зямель Вялікага княства на працягу XIV—XVI стст. паўстаюць у такой прапорцыі: 1:2,5 (у сярэдзіне XIV ст.), 1:12 (у перыяд максімальнага пашырэння дзяржаўных межаў), 1:7 (у сярэдзіне XVI ст.).

Унутранае асваенне зямель Беларусі, што працякала пераважна пад уздзеяннем мясцовых сацыяльна-эканамічных фактараў, мела куды большае значэнне, чым знешнія, адносна невялікія этнатэрытарыяльныя змены.

Многія рэгіёны Беларусі захоўвалі свае этнаграфічныя асаблівасці, якія адлюстроўваліся ў характары рассялення, знешнім выглядзе пасяленняў, жылля, некаторых рысах гаспадарча-бытавога ўкладу. Невялікія пасяленні, прыстасаваныя да ўмоў азёрнага рэльефу, былі характэрнымі для Полацкай і Віцебскай зямель. Шматдворныя сёлы былі распаўсюджаны на поўдні Беларусі. Найбольш заселенай часткай яе было ўзвышанае берасцейскае Палессе. Далей на ўсход, асабліва за Пцічу і Убарцю, распасціраліся вялікія малазаселеныя лясы і багны. Высокай шчыльнасцю насельніцтва адрозніваліся заходнія паветы (Ваўкавыскі, Гародзенскі, Лідскі, Ашмянскі). У Магілёўскім Падняпроўі, як і ва ўсёй сярэдняй паласе, пераважаў скучана-гнездавы тып рассялення.

Станаўленне і развіццё беларускай народнасці адбывалася ў складаных грамадска-палітычных умовах. У параўнанні з этапам феадальнай раздробленасці Вялікае княства прадстаўляла новы ўзровень палітычнай, дзяржаўнай і сацыяльна-эканамічнай арганізацыі зямель. Супольнае супроцьстаянне народаў ВКЛ татарскім набегам, агрэсіі Ордэна, першараднае значэнне ўсходнеславянскіх зямель у эканамічным, грамадска-палітычным і культурным жыцці княства мелі пазітыўныя вынікі ў этнакансалідацыйных і інтэграцыйных працэсах. Фарміраванню беларускай народнасці садзейнічала шырокае выкарыстанне старабеларускай («рускай») мовы і пісьменнасці ў дзяржаўным справаводстве, грамадскім жыцці, міжэтнічных, міждзяржаўных кантактах.

У той жа час у новым дзяржаўным фарміраванні, неаднародным па этнічным складзе насельніцтва і ўзроўні сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, культурнага развіцця, захоўвалася шмат прыкмет феадальнай раздробленасці. Напрыклад, аўтаномія некаторых буйных зямель Беларусі і Украіны, тэрытарыяльнае адасабленне так званай Літоўскай зямлі.

У грамадска-палітычным жыцці Беларусі і ўсяго Вялікага княства назіраліся як аб'яднальныя, так і сепаратысцкія тэндэнцыі. У іх адлюстроўваліся інтарэсы прывілеяваных саслоўяў, вярхоўнай улады дзяржавы, мясцовых феадалаў.

Станаўленне і развіццё беларускай народнасці праходзіла таксама пад уздзеяннем уласна этнічных фактараў. Важную ролю тут адыгрывала роднасць усходнеславянскіх народаў, іх супольныя гістарычныя традыцыі. На працягу стагоддзяў на землях усходніх славян захоўваліся многія рысы этнічнай самасвядомасці, выразная моўная блізкасць.

Найважнейшую ролю ў фарміраванні беларускай народнасці адыгрывалі сацыяльныя фактары. Узнаўленне матэрыяльных каштоўнасцей і самога насельніцтва, як вядома, неабходна для існавання кожнай этнасацыяльнай супольнасці. Тагачасны вытворчы працэс (земляробства, жывёлагадоўля, рамёствы) уздзейнічаў на складванне саслоўна-класавай структуры этнасу. Ён забяспечваў этнакультурнае і гаспадарча-культурнае адзінства беларускай народнасці, вызначаў многія дэмаграфічныя змены.

Натуральная гаспадарка панавала, як і раней, у эканоміцы Беларусі XV—XVI стст. Але таварна-грашовыя адносіны ўсё больш уздзейнічалі на працэс складвання народнасці. Пры ўсёй важнасці знешніх зносін, якія прыкметна ўплывалі на рост таварнага абароту і развіццё эканомікі, у гісторыка-этнічным плане найбольш значную ролю адыгрывалі ўнутраныя гаспадарчыя сувязі. Яны садзейнічалі інтэнсіфікацыі ўнутрыэтнічных, эканамічных і сацыяльных кантактаў, згладжвалі некаторыя гаспадарчыя і бытавыя адрозненні.

Дзякуючы грамадскаму падзелу працы, сельская гаспадарка паступова ўцягвалася ў гандлёвы абмен з гарадамі. Вакол буйных гарадоў складваліся лакальныя рынкі. Гэта, у прыватнасці, абумовіла доўгае існаванне мясцовых мер побач з шырокім распаўсюджаннем агульнадзяржаўных гандлёва-вымяральных стандартаў. Некаторыя з апошніх былі ўзаконены ў Статутах Вялікага княства. У якасці мясцовых аб'ёмных мер, напрыклад, на Беларусі выкарыстоўваліся бочкі і паўбочкі «менская», «лукомльская», вядро «пінскае», «берасцейскае», вагі і беркавец «полацкія» і інш.

Пераадольванню лакальнай замкнёнасці садзейнічалі гандлёвыя сувязі паміж гарадамі і іх удзел у рэгіянальным і транзітным еўрапейскім гандлі. У XIV—XVI стст. узрасло значэнне буйных гарадоў Беларусі (Полацк, Бярэсце, Магілёў, Гародна, Віцебск і інш.) як важных пунктаў палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных сувязей беларускіх зямель. Імклівы рост колькасці мястэчак у XVI ст. быў вынікам далейшага развіцця таварна-грашовых адносін, уцягвання ў іх новых тэрыторый.

На Беларусі важную ролю ў сістэме гандлёвых камунікацый адыгрывалі рэкі, якія выкарыстоўваліся таксама і ў зімовы час. Але галоўная роля належала сетцы сухапутных дарог, якія звязвалі землі Беларусі з Паўночна-Усходняй і Паўночна-Заходняй Руссю, Украінай і Польшчай.

Да сярэдзіны XVI ст. усе асноўныя класы і саслоўі беларускай народнасці дасягнулі ўзроўню сталага феадальнага грамадства. У працэсе сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця беларускіх зямель больш разнастайнымі сталі культурныя сувязі паміж імі. Многімі агульнымі рысамі адзначаны вусная народная творчасць і літаратурныя творы, народныя песні і танцы, абрады, мастацтва і рамяство.

Супольнасць беларускай культуры асабліва выразна выявілася ў станаўленні і развіцці беларускай народнай і літаратурнай мовы. Спецыфічныя рысы беларускай мовы пачынаюць узнікаць здаўна — не пазней XIII ст.

Характэрныя рысы беларускай мовы (дзеканне, цеканне, цвёрдае «р» і інш.) трапляюць у помнікі пісьменнасці XIV—XVI стст. Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратурнай мовы знайшлі адлюстраванне ў свецкіх мастацкіх творах, вайсковых і гістарычных аповесцях, у беларускіх летапісах, справаводстве, у меншай ступені — у царкоўна-рэлігійнай пісьменнасці. Галоўны напрамак у развіцці беларускай літаратурнай мовы ў XV—XVI стст. вызначаўся замацаваннем у ёй граматычных і лексічных форм беларускай народнай гаворкі. Беларуская літаратурная мова канчаткова склалася як самастойная моўная сістэма ў другой палове XVI ст.

*(Працяг будзе).*

***(Тэкст скарочаны, матэрыял да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ).***

*Руплівцы*

# «Маё жыццё — суцэльная фальклорная экспедыцыя»

***Аляксей Непадавец — малады беларускі вучоны-фалькларыст. Доктар філалагічных навук, аўтар кніг «Пакланіцеся дубу», «Крэпасць на Бярэзіне», шматлікіх артыкулаў. Жыве ў Бабруйску. Шмат сіл і часу ён аддае вандроўкам па Беларусі, запісвае народныя паданні, легенды. Наш пазаштатны карэспандэнт гутарку з Аляксеем Непадаўцом прысвяціў тапанімічным росшукам вучонага, яго клопатам па высвятленні паходжання назваў беларускіх гарадоў і вёсак.***

**— Аляксей, у Вашай працы значнае месца займае тапаніміка. Якую канчатковую мэту паставілі Вы перад сабою, беручыся за гэта?**

— Апрацоўваць народныя легенды і паданні я пачаў даволі даўно, яшчэ калі вучыўся ў аспірантуры. Праўда, тады гэта было не зусім усвядомленае памкненне. Падабалася — запісваў, апрацоўваў, а не — то проста не звяртаў увагі. Пакідаў, як кажуць, на потым.

Захапленне ж беларускай тапанімікай пачалося колькі гадоў назад, калі ў выдавецтве «Беларусь» мне прапанавалі пісаць невялічкія артыкулы для календара.

**— Высвятленне гісторыі і паходжання тае ці іншае назвы вёскі альбо горада вымагае карпатлівых росшукаў. Наколькі цяжкая гэтая праца, наколькі доўгі шлях да ісціны?**

— Апрацоўваючы вуснапаэтычныя творы, я свядома падстаўляю сябе пад шматлікія ўдары чытачоў. Справа ў наступным. Напрыклад, пра нейкую вёску ці мястэчка могуць існаваць не адна, а пяць-шэсць ці нават яшчэ болей легендаў, якія ў гэтым населеным пункце зараз вядомы далёка не ўсім. Да таго ж, кожны з жыхароўапавядальнікаў лічыць, што менавіта ён праўду кажа. Ці такі варыянт. Пра невялічкую вёску існуе многа паданняў, легенд, а пра Гародню ці славуты Полацк — няма... Адмоўнай з'явай для беларускай тапаніміprinciples сталі гэтак званыя перайменаванні назваў населеных пунктаў. Вось тады і з'явіліся Леніны, Юпітэры і Марксы, якія ніколі абсалютна не асацыіраваліся ні з нашым жыццём, ні з нашымі людзьмі.

Сотні студэнтаў пастаянна выязджаюць на фальклорную практыку. Але тапанімічных запісаў, якія б дапамагалі ў тлумачэнні акрэсленай намі тэмы, усё роўна мала. Мой уласны архіў у гэтым плане даволі змястоўны, бо я займаюся тапанімічнымі росшукамі болей за дзесяць гадоў. Праўда, даказаць правільнасць паходжання тае ці іншае назвы ў мае планы не ўваходзіць. Нічога, што мае меркаванні часта разыходзяцца з думкамі мовазнаўцаў, гісторыкаў, географаў. Мне хочацца, каб мае сучаснікі ведалі як мага больш пра сваё мінулае...

**— Як Вы лічыце, ці можна гаварыць пра існаванне пэўнага вопыту, пэўных узораў тапанімічных даследаванняў? Хто для Вас прыклад у гэтых клопатах?**

— Так, пастаянна выходзяць фальклорныя зборнікі, асобныя кнігі, публікацыі ў часопісах і газетах, дзе аўтары звяртаюцца да першавытокаў паходжання назваў беларускіх гарадоў і вёсак. Можна ўспомніць славутую «Магілу льва» Янкі Купалы... Цікавая кніжка і зараз на маім рабочым стале — «Адкуль імя ў вёскі?» Але ва ўсёй кніжнай прадукцыі па згаданай тэме не адчуваецца імкнення да сістэмнага адказу на пытанне аб паходжанні многіх назваў. У самым лепшым выпадку бярэцца не адна легенда, не адно паданне, а некалькі...

**— Аляксей, але ж у раскрыцці розных назваў вялікую ролю адыгрывае вывучэнне канкрэтнай мясцовасці. Як у Вас на ўсё хапае часу? Да таго ж, хіба можна аднаму чалавеку запісаць легенды, паданні па ўсіх раёнах?**

— Часу катастрафічна не стае, бо, акрамя гэтай сваёй тэмы, я павінен выконваць яшчэ і планавыя заданні (за што атрымліваю штатны заробак) у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Але што зробіш, такая ў мяне праца, такая прафесія — даследаваць фальклор свайго народа. Даволі многа хадзіў і ездзіў (больш, праўда, раней, бо зараз самі бачыце, што адбываецца) па Беларусі. Гомельскае і Брэсцкае Палессе, лічы, абышоў усё. Многа запісваў і на Магілёўшчыне, Меншчыне, Гродзеншчыне. Занатоўваю, нешта запісваю пастаянна. Калі хочаце, усё маё жыццё — суцэльная фальклорная экспедыцыя.

**— Вашыя росшукі немагчымы без грунтоўнага ведання моў народаў памежных з Беларуссю тэрыторый. У нас жа процьма літоўскіх, польскіх назваў.**

— Добра валодаю ўкраінскай, польскай і нямецкай мовамі. Што да літоўскай, то тут ужо даводзіцца звяртацца па дапамогу.

**— Што ў Вас наперадзе? Магчыма, у хуткім часе Вы створыце своеасаблівы фальклорны слоўнік назваў усіх беларускіх вёсак?**

— Несумненна, што наперадзе... вялікія цяжкасці! Ды і, на маю думку, гэта справа не аднаго чалавека. Зараз рыхтую да друку двухтомнік пад умоўнай назвай «З сівых стагоддзяў», які запланаваны на 1995—1996 гады ў выдавецтве «Беларусь». Ужо заканчваю працу над першым томам. У ім будуць прадстаўлены назвы населеных пунктаў Брэсцкай, Гродзенскай і Менскай абласцей. А другі том — матэрыялы, прысвечаныя астатнім абласцям.

**— Тапаніміка і школа... Мо, след шырэй уводзіць тапанімічныя веды ў сістэму школьнага навучання, школьнага выхавання?**

— Што да школы, то ў ёй не толькі трэба даваць пэўныя тапанімічныя веды, але і ўвогуле трэба больш шырока вывучаць нацыянальную міфалогію і фальклор, бо тыя падручнікі, якія былі да апошняга часу, гэта проста ігнаравалі.

Гутарыў
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Уладзіслаў* ***СЫРАКОМЛЯ***

# ПАШТАР

***(народная гутарка)***

*— Тут п'юць, ды гарланяць, ды смаляць цыгаркі,*
*А ты, як нявольнік гаротны.*
*Набі лепей люльку ды выпі во чарку.*
*Пра боль раскажы свой нязводны.*

*Ні бомы, ні рог, ні красуні-дзяўчаты,—*
*Нішто не разгоне нудоты.*
*Ты, кажуць, хлапец калісь быў зухаваты,*
*Не ведаў ніякай згрызоты.*

*— Бо цяжка мне вельмі, бо цесна між люду,*
*Усё патыхае журбою.*
*Дай чарку. Пры чарцы смялейшы я буду.*
*Паслухай, што стала са мною.*

*Як быў паштаром у юнацкія годы,*
*Да гуляў быў надта ахвочы.*
*Папраўдзе ж не меў ні выгод, ні свабоды,*
*Ні свята не ведаў, ні ночы.*

*Ад змроку да ранку, ад ранку да змроку*
*Вазіў я панову да пакеты.*
*Заробіцца злот — ушчыняю гулянку.*
*Вясёлы, напіты, наеты.*

*Сябровў меў нямала. Дзяўчаты аж вісняць.*
*І пісар мне роўня нібыта.*
*А коні якія? — як лясну, як свісну:*
*Аж іскры ўразлёт з-пад капытаў.*

*Паштар-весялун! Загукаю на мосце —*
*Каго даганю ці спаткаю...*
*Вязу паніча ці паненак-яймосцяў —*
*Двухзлотку ў кішэнь атрымаю.*

*Ды сэрца аддаў я адной з тых дзяўчатаў,*
*Што ў вёсцы жыла тут за мілю.*
*Калі выпадала, заўжды ў яе хату*
*Заскочу, бывала, на хвілю.*

*Раз пісар паклікаў мяне апаўночы.*
*Усхапіўся, прыходжу панура.*
*Зіма лютавала, мароз патарочы —*
*Завеі, заносы, віхуры.*

*«Вязці трэба пошту!»*
*«А, ліха якое»,—*
*Пад нос сабе ціха шапчу я.*
*Але за пакет, ды за рог, ды ў сядло я —*
*Кідаюся ў прорву начную.*

*А тут гэты вецер мяце ды шуфлюе.*
*Аблогай кругом бездарожжа.*
*Вярсту адмяраю адну і другую.*
*Імчуся. І раптам... О, Божа!..*

*Пад посвісты буры (чуваць мне з дарогі)*
*Заве нейкі голас на помач.*
*Мільгнулася думка: з снягоў без падмогі*
*Не выйсці душы невядомай.*

*Звярнуў быў каня ўжо, як хтосьці, здалося,*
*Шапнуў: «Каб намер ты свой кінуў,*
*То часу пасля б у цябе засталося*
*Сваю пераведаць дзяўчыну».*

*Страх сэрца так сціснуў, што ледзьве я дыхаў.*
*Аж потам халодным абдаўся.*
*У рог затрубіў, каб не чуць гэтых крыкаў,*
*І далей у даль паімчаўся.*

*Вярнуўся дасвецкам. Вярсты тры ад дому*
*Зноў страх агарнуў непазбытны.*
*І сэрца знібела ўвесь час пакраёма,*
*Трымцела званочкам разбітым.*

*Конь чмыхнуў ля слупа з якоесь прычыны.*
*Амаль пры дарозе пад гурай*
*Убачыў я труп скасцянелы жанчыны,*
*Замецены снежнаю бурай.*

*Згроб снегу я пласт з яе белага плацця*
*І... цяжка панёс да дарогі...*
*Была гэта... Дай лепей чарку мне, браце...*
*Не маю расказваць больш змогі.*

З польскай пераклаў Іван ЧЫГРЫН.

*Імпрэзы*



**1 кастрычніка ў Менску ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея адбылася ўрачыстасць, наладжаная дырэкцыяй Менскага мастацкага вучылішча. У гэты дзень адбылося пасвячэнне ў студэнты абітурыентаў, што ў гэтым годзе паспяхова здалі ўступныя іспыты ў вучэльню.**

**Святы нарачэння студэнтамі будучых мастакоў сталі ўжо традыцыйнымі. Традыцыйна на беларускай мове прагучаў і зварот да моладзі намесніка дырэктара вучылішча вядомага графіка Міколы Купавы.**

**Імкненне захаваць і развіць набыткі нацыянальнага мастацтва, шанаванне беларускай культуры даўно ўжо сталі адметнымі рысамі мастацкага вучылішча. І няма сумнення: хлопцы і дзяўчаты, якія ў гэты дзень былі прынятыя ў студэнты, праз некалькі гадоў зробяць і свае ўклады ў скарбонку мастацтва краіны.**

**У. ПАНАДА.**

# Рыхтуецца да выдання

*У выдавецтве «Навука і тэхніка» ў гэтым годзе выйдзе кніжка вядомага краязнаўцы Аляксандра Лакоткі «Бераг вандраванняў: Адкуль у Беларусі мячэці». Згаданая кніга прысвечана спадчыне беларускіх татараў, якія ўнеслі прыкметны ўклад у культуру нашай Бацькаўшчыны. Выданне багата ілюстравана, напісана даходліва і займальна. Кніга разлічана на ўсіх, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай.*

*Заказ можна аформіць у кнігарнях рэспублікі (тэматычны план «Навукі і тэхнікі» на 1994 год).*

## Народныя таленты



Гэтыя вясёлыя хлопцы і дзядзькі — з ансамбля «Палешукі», які створаны ў Іванаўскім гарадскім доме культуры. Ансамбль, рэпертуар якога складаецца з народных песень і найгрышаў, ужо добра ведаюць не толькі на Брэстчыне, а і ў суседніх з Беларуссю краінах.

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**



## Падзяка за падтрымку

*На карысць ТБМ перадалі ахвяраванні*

**Сяргей ЛІХАДЗІЕЎСКІ — прэзідэнт фірмы «Віцына» з Бабруйска — 20 тыс. рублёў.**
**Station Браніслаў ДАНІЛОВІЧ — ЗША — 20 долараў.**
**Прафесар Томас БЭРД — ЗША — 50 долараў.**
**Хведар КАРЖАЦЕВІЧ — г. Манчэстэр (згуртаванне беларусаў) — 20 долараў.**

***Шчыра дзякуем за падтрымку.***

**Сакратарыят ТБМ.**

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

*Лістапад* — апошні месяц восені, час, калі злятае апошні ліст з дрэваў. Пра яго казалі: «Лістапад — вераснёўскі ўнук, кастрычнікаў сын, зіме бацюхна родны», «Лістапад зіме сцежку пракладае», «Лістапад-паўзімнік: мужык з калёсамі развітваецца, у сані перабіраецца».

У палітры прыроды застаецца адзін колер — шэры. Днём — дажджы, туманы, уначы — замаразкі. На рэках і азёрах — крыгаход. Характэрная прыродная з'ява ў гэтым месяцы — вясёлка. На змрочным фоне нізкіх хмар яна выглядае досыць злавесна.

Галоўны клопат земляробаў у лістападзе — догляд гаспадаркі і малацьба. Даўней малацілі цэпамі і жыла такая прымаўка: «Пакуль цэп — датуль хлеб». Бывалі выслоўі павучальнага зместу. Напрыклад: «Прыйшоў лістапад — кармі скацінку, брат», «Як будзеш дбаці аб худобу, дык будзеш меці і карову», «Каня не дагледзіш — далёка не заедзеш», «Не гані каня дубцом, а гані аўсом», «Конь у гаспадарцы — бацька» і інш. Шмат прыказак складзена пра надвор'е лістапада і гаспадарчыя клопаты ў гэтым месяцы. Напрыклад: «Лістапад на рабой кабыле ездзіць: то снег, то слата», «Лістапад сцюжаю багат: з кожным падзеліцца, яшчэ і на старцаў пакіне», «У лістападзе кладзі капусту ў кадзі» і інш.

Пасля Прачыстай яшчэ гулялі вяселлі. Дзяўчаты не трацілі надзеі выйсці замуж і на Змітра і на Параскеву. У валачобнай песні пяецца:

Святы Змітра — за ўсіх
хітры,
Піва варыць, жану поіць,
сыноў жэніць,
Дачок аддаец, пасаг даець:
А сыночку па канёчку, а
дачушцы — па кароўцы.

У дзень Параскевы дзяўчаты звярталіся да святой пакутніцы так: «Пяцёнка, мая мацёнка, памажы хоць ты, каб мне замуж пайсці». У канцы месяца пачынаўся суровы піліпаўскі пост з забаронай ладзіць гульні і забавы. На вячорках-попрадках спяваліся журботныя, пад настрой прыроды, абрадавыя («паставыя») песні — усё больш пра нешчаслівую долю маладзіцы ў чужой хаце з нядобрай мужавай раднёю.

### «Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына»

1 (панядзелак). **Кат.** *Усіх святых.* Памінальны дзень. («Па ўсіх святых холад уйме ўсіх»).

**Ун.** *Дзень Кузьмы і Дзям'яна, бескарыслівых лекараў.*

2 (аўторак). **Кат.** *Дзень задушны. Дзяды.* Другі дзень памінання продкаў. Сёлета на Беларусі — усенародны дзень памяці.

7. **Ун.** *Нядзеля 23-я пасля Сёмухі.*

8 (панядзелак). **Ун.** *Сабор арханёла Міхала.*

**Пр.** *Зміцер (Змітрок, Дзмітры).* Ад прысвятка пайшла назва восеньскіх Дзядоў. Прыказкі і прыкметы: «Змітраў дзень — зіма лезе на пляцень», «Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў», «Да Змітра пасуць, а па Змітру пільнуюць», «На Змітра дзеўка хітра», «Змітрок па снегу — і Вялікдзень па снегу», «Змітрок па голу — і Вялікдзень таксама». Людзі заўважалі, што калі на Змітра цёплае надвор'е, то будзе цёплая зіма і вясна. У гэты дзень не ткалі, не пралі, не малацілі.

9 (аўторак). **Пр.** *Тадор* («На Тадора поўная камора»).

10 (серада). **Пр.** *Параскева* («Параскева Пяценка, Параскеўя Пятніца, Параскі Асеннія»). Забаранялася прасці і ткаць. Людзі верылі, што Параскева ходзіць па хатах і пільнуе, каб ніхто не праў кудзелю ў пятніцу.

11 (чацвер). **Пр.** *Настуся (Анастасія, Настасей).* **Кат.** *Марцін,* прысвятак млынароў («Ад Марцінавага дня пачынаецца зіма». На Настусю людзі стрыглі авечак.

12 (пятніца). **Пр.** *Артошка (Арцемія, Арцема).* Пачатак прадзіва льну («Святы Артошка, напрадзі пачатак з лукошка, а клубок з карабок»).

**Кат., Ун.** *Дзень Язафата Кунцэвіча, біскупа Полацкага,* які прыняў пакутніцкую смерць у г. Віцебску ў 1623 г. Апякун паўстання 1863—1864 гг.

13 (субота). **Ун.** *Дзень Яна Залатавуснага, архібіскупа Канстанцінопальскага.*

14. **Ун.** *Нядзеля 24-я пасля Сёмухі.*

**Пр.** *Кузьма і Дзям'ян (Касьма-Даміян, Кузьмінкі, Кузьмадзям'ян).* Прысвятак кавалёў і шаўцоў. Лічылася, што святыя спрыялі земляробству, шлюбу і вяселлям. Прыкметы: снег у гэты дзень — да веснавой паводкі; лісты на дрэвах — да недароду.

Пачатак Піліпаўскіх запустаў (па 27 снежня).

16 (аўторак). **Ун.** *Мацвей, апостал і евангеліст.*

21. **Ун.** *Нядзеля 25-я пасля Сёмухі. Уваход у святыню Найсвяцейшае Багародзіцы.*

19 (пятніца). **Пр.** *Міхайлаўскія (Міхайліны, Асеннія). Дзяды.* Прыпадаюць на пятніцу напярэдадні Міхайлава дня.

**Пр.** *Сабор арханёла Міхала, або Міхайлаў дзень (Міхайла Архайла, Міхайла Рахайла, Міхаіл)* — апошняе свята перад Калядамі («Міхайло — усім святком запіхайло»). У гэты дзень нельга было рабіць «ні тапаром, ні нажом, ні на кроснах», бо тады Міхайла, абаронца ад грому, пакрыўдзіцца, і чалавека можа забіць пярун. Прыкметы: лёд на лужынах і сцёках вады — пчаляры будуць з мёдам, іней на Міхайлу — да снежнай зімы, туман — да адлігі, бездараж — да зімовага Міколы добрай дарогі не будзе. А ўвогуле на Міхайлаў дзень амаль заўсёды прыпадае адліга.

22 (панядзелак). **Пр.** *Матруна (Матрона).* Прыкмета: шэрань на дрэвах — да маразоў, туман — да адлігі.

24 (серада). **Пр.** *Хведар Студзянец (Феодар Студзіт)* («Хвёдаравы вятры галоднымі ваўкамі скуголяць»).

25 (чацвер). **Кат.** *Кацярына* («Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына», «Кацярына забрала лета»). Дождж на Кацярыну абяцае адлігу да Грамніц.

26 (пятніца). **Пр.** *Іаан Залатавусны (Іван Міласцівы).* Святкуецца ў гонар візантыйскага прапаведніка і царкоўнага дзеяча. Дождж у гэты дзень таксама абяцае адлігу да Грамніц.

27 (субота). **Пр.** *Піліп. Загавенне* (запусты) на калядны пост, які працягваецца да 6 студзеня і ў народзе завецца Піліпаўкай. Канец сезона вяселляў, пачатак піліпаўскіх вячорак. Жанчыны ткалі кросны. Лічылася, што першыя кросны ткуць да Міхайлава дня, другія — у Піліпаўку, трэція — у мясаед.

28 (нядзеля). **Пр.** *Піліпаўка* (пост). Прыкметы: надвор'е снежнае — на мокры травень, навісь на дрэвах — ураджай на збожжа.

**Ун.** *Нядзеля 26-я пасля Сёмухі.*

29 (панядзелак). **Кат.** *Адвент* (калядны пост). *Дзень задушны (Піліпаўскія Дзяды).*

30 (аўторак). **Кат., Ун.** *Андрэй, першапаклíканы апостал.* Напярэдадні дзяўчаты варажылі: сыпалі пад падушку ячмень і казалі: «Святы Андрэю, я ячмень сею, дай жа ты мне знаць, з кім я буду жаць».

У календары на лістапад выкарыстаны звесткі з «Беларускага народнага календара» А. Лозкі.

**І. К.**

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**28 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР**
**13.30. Навіны.**
**17.00. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. X клас. Культура Беларусі ў 20-я гады XX стагоддзя.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.50. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**20.05. Мост. Культурна-асветніцкая праграма.**
**21.00. Панарама.**
**22.40. НІКа.**

**29 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА**
**13.30. Навіны.**
**16.40. ПІК прадстаўляе... «Папараць-кветка». Шоу-віктарына.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Палітычны калейдаскоп. «Вясна-94» — новая партыйная кааліцыя.**
**19.40. Студыя «Тэлесябрына». «Памінанне». Да Бацькоўскай суботы.**
**20.05. «1308». Конкурс эстраднай песні.**
**21.00. Панарама.**
**23.30. НІКа.**

**30 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА**
**13.15. «Скарб-93». Фестываль талентаў.**
**14.35. Для школьнікаў. Дарожная азбука.**
**21.00. Панарама.**
**23.45. НІКа.**

**31 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ**
**12.35. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**18.00. Дзяржава — закон — мова. «Круглы стол» па пытаннях выканання Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, які арганізавала і правяло ТБМ імя Ф. Скарыны.**
**20.00. Панарама.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 294.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7245 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 25.10.1993 г. у 15 гадзін.